


Малгося Баканач з Новага Ляўкова. Фота М. Шаховіча.

№ 36 (1204) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 7.IX.1980 г.

**Г. Снегіроў**




За нашым садам — плот. Хто там жыве, я раней не ведаў. Зусім нядаўна даведаўся. Лавіў я ў траве конікаў. Гляджу — вока з дзіркі ў плоце на мяне глядзіць.

— Ты хто? — пытаюся.

А вока маўчыць і ўсё глядзіць, падглядвае за мной. Глядзела, глядзела, а потым кажа:

— А ў мяне марская свінка ёсць!

Цікава мне зрабілася: звычайную свінку я ведаю, а марскую ніколі не бачыў.

— У мяне, — кажу, — вожык жывы быў. А чаму свінка марская?

— Не ведаю, — кажа. — Мабыць, яна ў моры раней жыла. Я яе ў ночвы саджаў, але яна баіцца вады, вырвалася і ўцякла пад стол!

Захацелася мне марскую свінку пабачыць.

— А як, — кажу, — цябе зваць?

— Сярожа. А цябе як?

Падружыліся мы з ім. Пабег Сярожа па марскую свінку, а я ў дзірку за ім гляджу. Доўга не было. Выйшаў Сярожа з хаты, у руках нясе нейкага рыжага пацука.

— Во, — кажа, — яна не хацела ісці, у яе дзеці хутка будуць: не любіць, каб яе за бруха бралі, рычыць!

Пачаў я ў Сярожы распытваць, чым ён корміць марскую свінку.

— Яна, — кажа, — любіць моркву, але і малако п'е.

Не паспеў мне Сярожа ўсё расказаць, як яго паклікалі дадому.

На другі дзень я гуляў каля плота і глядзеў у дзірку: думаў, Сярожа выйдзе, вынесе свінку. А ён так і не выйшаў. Дождж імжыў, і, мабыць, маці яго не пусціла. Прайшоўся я па садзе, гляджу — пад дрэвам нешта рыжае ляжыць у траве.

Падыйшоў я бліжэй, а гэта Сярожава марская свінка.

Уцешыўся я, толькі не разумею, як яна да нас у сад трапіла. Пачаў я аглядваць плот, а там унізе дзірка. Свінка, мабыць, пералезла цераз гэтую дзірку. Узяў я яе ў рукі, яна не кусаецца, толькі пальцы нюхае і ўздыхае. Змокла ўся. Прынёс я свінку дадому. Шукаў, шукаў морквіну, так і не знайшоў. Даў ёй качан ад капусты, яна качан з'ела і заснула пад ложкам на дываніку.

Я сяджу на падлозе, гляджу на яе і думаю:

„А што, калі Сярожа даведаецца, у каго свінка жыве? Не, не даведаецца: я яе на двор выносіць не буду!“

Выйшаў я на ганак, чую — недзе блізка гудзіць машына. Падыйшоў да плота, у дзірку зазірнуў, а гэта ў Сярожы на двары стаіць грузавік, на яго грузяць рэчы. Сярожа пад ганкам шнырыць палкай — мабыць, шукае марскую свінку. Сярожава мама ў машыну падушкі паклала і кажа:

— Сярожа! Хутчэй, зараз едзем!

Сярожа заплакаў:

— Не, не паеду, пакуль свінку не знайду! У яе дзеці зараз будуць, яна, мабыць, пад хату залезла!

Шкада мне зрабілася Сярожу, паклікаў я яго да плота!

— Сярожа, — кажу, — ты што шукаеш?

Падыйшоў Сярожа, а сам усё плача:

— Свінка мая прапала, а тут ад'язджаць трэба.

Я яму кажу:

— Свінка твая ў мяне, яна да нас у сад прыбегла. Я табе зараз яе прынясу.

Прынёс я яму свінку і падсунуў пад плот.

Сярожу мама кліча, машына ўжо гудзіць.

Схапіў Сярожа свінку і кажа мне:

— Ведаеш што? Я табе абавязкова, калі яна дзяцей народзіць, маленькую свінку дам. Бывай!

Сеў Сярожа ў машыну, мама яго плашчом накрыла, таму што дождж пачаў падаць.

Свінку Сярожа таксама плашчом накрыў. Калі машына ад'язджала, Сярожа мне рукой махаў і крычаў нешта, я не зразумеў, мабыць, пра свінку.




Калі я быў зусім маленькі, пайшлі мы з мамай у заапарк. Мама мне купіла булку.

— Будзеш, — кажа, — звяроў карміць.

Я кавалачкі ад булкі адшчыпваў і даваў усім звярам.

Вярблюд свой кавалачак з'еў, уздыхнуў і маю далонь палізаў — відаць, не наеўся; але я яму больш не даў: іншым звярам тады не хопіць.

Мядзведзю кінуў кавалачак, а ён ляжыць у кутку і булкі не заўважае. Я яму крычу:

— Мішка, еш!

А ён на другі бок перавярнуўся, быццам не чуе.

Усю булку аддаў звярам, засталася адна гарбушка.

Мама кажа:

— Пойдзем дадому, звяры ўжо замарыліся, спаць хочуць.

Пайшлі мы да выхаду.

— Мама, — кажу, — яшчэ гарбушка засталася, можна яе даць пеліканам.

А пеліканы жывуць на возеры. Мама кажа:

— Дык бяжы хутчэй, а я пачакаю цябе тут.

Прыбег я да пеліканаў, а яны ўжо спяць. Стаўпіліся на беразе і схавалі галовы пад крылы. Толькі адзін пелікан не спіць, стаіць каля дрэва і перад сном мыецца: чысціць пёркі. Дзюба вялізная, а вочкі маленькія і хітрыя.

Усунуў я яму гарбушку праз сетку.

— Хутчэй, — крычу, — бяры, бо мама чакае!

Пелікан перастаў мыцца, паглядзеў на булку, павольна да мяне падыйшоў і я-ак дзеўбане!

Не паспеў я рукі адхапіць, ён яе разам з гарбушкай схапіў. Я закрычаў, а ён руку выпусціў, дзюбу ўверх узняў і праглынуў гарбушку.

Паглядзеў я на руку, а на ёй задрапіна. Гэта пелікан руку падрапаў, хацеў яе разам з гарбушкай праглынуць.

—Чаго ты стаіш там, хадзі хутчэй! — кліча мама мяне.

А пелікан за дрэва схаваўся.

Мама ў мяне пытаецца:

— А што ты трымаеш у кішэні?

— Нічога, проста так.

А гэта я абдрапаную руку ў кішэню схаваў, каб мама не бачыла.

І. Андрыянава

# КАЗКА ПРА ВЯСЁЛАГА ЧАЛАВЕКА

Мора лянiва перабiрае каменнi...

Маленькi гарадок стаяў на беразе мора.

Сонца, маленечкае i гарачае, расплавiла сiняе неба i кiдала на гарадок кiпячыя вадапады спёкi.

Жоўтая камянiстая дарога, як русло высахшай ракi, збягала да мора, i зялёныя хвалi лiзалi рыжыя гарачыя каменнi...

У поўдзень гарадок замiраў. Усё накалялася, нават лiсце густых дрэваў рабiлася вялым i цёплым...

Па жоўтай дарозе да самага мора пад'ехаў стары воз, якi цягнула худая белая кабыла. На возе ляжаў клунак з бедным скарбам i сядзелi Вясёлы чалавек i яго Разумная жонка.

— Гэй, жонка! — сказаў Вясёлы чалавек. — Паглядзi, колькi вакол вады, сонца i зялянiны. Вось тут, на беразе мора, мы пабудуем маленькую хатку, памалюем яе на сiнi колер, выгадуем цудоўны сад i зажывем не горш за iншых.

I Вясёлы чалавек голасна засмяяўся. Ён скiнуў з сябе старую кашулю, палатаныя нагавiцы, стаптаны абутак i пайшоў да павольных цёплых хваляў. Ён увайшоў у мора па грудзi, нырнуў, вынырнуў i закрычаў:

— Гэй, жонка! Я буду тут абрабляць зямлю, буду гадаваць сыноў, а вечарамi купацца ў моры, як у вялiзным цэбры. I самая прыгожая рыба будзе падплываць да мяне, каб расказваць вясёлыя марскiя жарты.

I Вясёлы чалавек зноў засмяяўся...

Вясёлы чалавек i яго Разумная жонка прыехалi да мора з далёкай паўночнай краiны, дзе паўгода сыплецца з неба лёгкi i халодны снег, лiецца доўгi дождж i вельмi мала свецiць халаднаватае сонца. У паўночнай краiне Вясёламу чалавеку не пашанцавала, шчасце не iшло яму ў рукi, а з яго жартаў нiхто не смяяўся, таму што людзi ў той краiне жылi бедна i няшчасна.

Аднойчы Вясёлы чалавек паглядзеў за акно, дзе велiзарныя гурбы снегу стаялi, як вартаўнiкi, i выла завiруха, i сказаў сваёй Разумнай жонцы:

— Ёсць жа недзе iншая, цёплая, квiтнеючая краiна, дзе круглы год грэе сонца i не замярзае мора. Паедзем туды. Можа, там знойдзем шчасце?

Разумная жонка таксама паглядзела за акно i сказала:

— Добра, паедзем у далёкую цёплую краiну, спрабуем знайсцi шчасце. Але абяцай мне, што вернемся роўна праз трыццаць год i тры гады i тут памрэм. Бо нават самая цёплая i шчаслiвая краiна не можа замянiць халодную бедную радзiму.

— Я згодны, — адказаў Вясёлы чалавек i ўпершыню за многа год голасна засмяяўся.

Вясёлы чалавек i яго Разумная жонка хутка пабудавалi на беразе мора маленькую хатку, абсадзiлi яе пышным квiтнеючым садам i зажылi бязгаладна i шчаслiва.

Жыхары гарадка, вялiкiя аматары добрага жарту i вясельля, палюбiлi Вясёлага чалавека, i нi адна ўрачыстасць, дзе можна было жартаваць i смяяцца, не абыходзiлася без Вясёлага чалавека.

— У гэтым горадзе людзі зразумелі мае жарты, яны не могуць жыць без смеху. Ты нават не ўяўляеш, якое гэта для мяне шчасце! — казаў Вясёлы чалавек жонцы.

Міналі гады.

Аднойчы над прыморскім горадам шумела навальніца. Разумная жонка сказала:

— Муж, ты памятаеш, якое абяцанне ты даў мне роўна трыццаць гадоў і тры гады таму назад?

Вясёлы чалавек усміхнуўся:

— Вядома, памятаю.

— Хутка мы вернемся на радзіму. Але ці не здаецца табе, што ты нічога не зрабіў для тых людзей за ўсе пражытыя тут гады?

— А жарты? Я дарыў людзям вясёлыя жарты.

— Так, — сказала Разумная жонка, — твае жарты доўга будуць людзі памятаць. Але людская памяць недаўгавечная. Доўга жыве толькі добрая рэч.



У гэты момант чорная хмара спынілася проста над маленькай хаткай Вясёлага чалавека, і доўгая маланка, нібы некім запушчаная страла, урэзалася ў траву ў садзе.

— Ты ж ведаеш, — працягвала Разумная жонка, — што ў маленькім гарадку ўсяго адзін-адзіны калодзеж і людзі з нашай вуліцы, ды і з суседніх вуліц, ходзяць па ваду далёка-далёка. Выкапай калодзеж на нашым двары.

— А ты верыш, што тут ёсць вада?

— Упэўнена. Вось ужо трыццаць гадоў і тры гады, як толькі над горадам навальніца, маланка б'е ў адно і тое ж месца. Ці ж ты забыўся, як у нашай халоднай краіне шукаюць ваду?

Пасля навальніцы чалавек узяў лапату і пайшоў капаць калодзеж. Цэлы дзень капаў ён на сваім двары калодзеж, але яго праца была дарэмнай. Людзі пачалі збірацца каля яго плоту, пачалі смяяцца з Вясёлага чалавека:

— Ты што? Капаеш калодзеж? Гэта самы вясёлы твой жарт. Ха-ха-ха!

— А чаму вы не верыце ў мой калодзеж? — пытаўся Вясёлы чалавек.

— Дзівак ты, гэтая зямля не нарадзіла ні адной кроплі, яна толькі паглынала велізарныя колькасці вады, — адказалі Вясёламу чалавеку.

Ноччу Вясёлы чалавек доўга і ўпершыню плакаў. Яму вельмі хацелася падарыць людзям маленькага гарадка калодзеж з чыстай крынічнай вадой. Вясёлы чалавек упершыню засумаваў за многа год па сваёй беднай радзіме. Яму сніліся высокія бярозы і пушысты снег.

Раніцай Вясёлы чалавек сказаў жонцы:

— Ты ведаеш, мне ноччу чуўся шум бяроз. Нібы мы ўжо ў сябе на радзіме.

— Паглядзі ў акно, — сказала Разумная жонка.

За акном было дзіва. Калодзеж.

*(Працяг на стар. 8)*




## ЦУНАМІ

Землетрасенні бываюць небяспечнымі не толькі ў гарах ці на раўніне, але і на дне акіянаў. Для каго? Для жыхароў марскога дна? Не, для чалавека. Падводныя землетрасенні родзяць гіганцкія вадзяныя горы — цунамі.

Вышыня гэтай магутнай хвалі дасягае некалькіх дзесяткаў метраў, шырыня яшчэ больш — 200-300 кіламетраў. Цунамі імчыцца на бераг з хуткасцю рэактыўнага самалёта, нярэдка да 900 кіламетраў на гадзіну. Разбурэнні ад цунамі несамавітыя. Таму вельмі важна своечасова папярэдзіць жыхароў узбярэжжа аб надыходзячай небяспецы.

У СССР, на Далёкім Усходзе ёсць чатыры сейсмічныя станцыі. Там удзень і ноччу дзяжураць вучоныя. Дакладныя сейсмографы імгненна фіксуюць сутрасенні марскога дна. Усяго мінуты даюцца сейсмографам на роздумы: аб'яўляць трывогу ці не. Вядома: калі эпіцэнтр — у зоне акіянскіх упадзін, значыць, будзе цунамі.

Цунамі даволі часта навальваюцца на Курылы. Тут, на скалістых схілах гор, вырублены сходкі. І калі каго-небудзь хвалі цунамі засталі на беразе, ён вельмі хутка па сходках можа ўцячы ўверх на гару.

Чалавек, на жаль, яшчэ не ўмее змагацца з цунамі.

## РЭДКАЯ ПТУШКА

На ўзбярэжжах Ахоцкага мора жыве рэдкая птушка — уліт. Падобна яна да куліка, толькі большая. Гэтая птушка вядома вучоным даўно, больш ста гадоў, але гнязда яе да гэтага часу ніхто не бачыў. І вось нарэшце на поўначы вострава Сахалін знойдзена было дваццаць гнёздаў.

Свае гнёзды птушка ўліт робіць у асаковых балотах, у лагунах. Кладзе па чатыры яйкі. Самка і самец выседжваюць яйкі на змену. Нягледзячы на такую стараннасць бацькоў, птушаняты, ледзь вылупіўшыся з яйка, ужо на другі дзень пакідаюць гнёзды.

Колькі цяпер усяго гэтых птушак на зямлі — невядома. Іх няма нават у нашых заапарках. Гэтая рэдкая птушка ўнесена ў „Чырвоную кнігу."

## СФІНКС У РАМОНЦЕ

На самай ускраіне Сахары, побач з велізарнымі пірамідамі, велічна разлёгся сфінкс — сімвал магутнасці егіпецкіх фараонаў.

За чатыры з паловай тысячы гадоў, якія прайшлі ад часу нараджэння сфінкса, ён моцна пацярпеў ад ветру, пяску і дажджоў. Ад людзей яму таксама дасталося. На скульптуру не раз нападалі рэлігійныя фанатыкі, а турэцкія і напалеонаўскія салдаты выкарыстоўвалі яе як мішэнь для стральбы. Спецыялісты кажуць, што калі ў хуткім часе не правесці рамонту скульптуры, адпадзе галава сфінкса.

Рамонт высечанага з маналітнай скалы гіганта, ростам у дваццаць і даўжынёй у пяцьдзесят сем метраў, трываць будзе доўга.

## Пазнаёмімся

СССР, г. Москва, ул. Алтайская, д. 28, кв. 44. Зайцевой Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

БССР, Гродзенская вобл. і раён, п/а Азёры, вул. 60 год Кастрычніка, дом 9. Малышчык Алене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 352905, Краснодарский край, г. Армавир, ул. Железнодорожная, д. 52, кв. 54. Волкова Оля. Дзяўчынцы 14 гадоў.

* ✲ *

СССР, 352905, Краснодарский край, г. Армавир, ул. Железнодорожная, д. 52, кв. 45. Войцеховская Наташа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чэрняхоўскага, 10, кв. 32. Лена Белавус, скончыла 7 клас.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 77/1, кв. 13. Таццяна Емяльянчык, 14 гадоў.

* ✲ *

Войтэк Сікорскі, вучань шостага класа, 17-221 Старое Ляўкова 71/20, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 6949910, о. Сахалин, Углегорский район, г. Шахтёрск, ул. Ленина, д. 18, кв. 53. Бычихиной Оксане. Дзяўчынка вучыцца ў трэцім класе.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 219, кв. 1. Таня Сачок, скончыла 6 клас.

**Язэп Пушча**

## Восень

*Пад жоўтым клёнам восень*
*Лісты на дол трасе;*
*Бяжыць дзяўчынкай босай,*
*Ў прыполе іх нясе.*

*Ідуць з далін на ўзгоркі*
*Асеннія дзянькі,*
*А ветры — наўздагонкі*
*Праз поплаў нацянькі.*

*Плывуць над гаем хмаркі,*
*За імі журавы,*
*А ранак светлы, яркі*
*Нясе кош журавін.*

*Нясе напіцца соку,*
*Асенняга віна.*
*Крапіся, родны сокал,*
*Сок дапівай да дна.*

*Пад жоўтым клёнам восень*
*Лісты на дол трасе;*
*Бяжыць дзяўчынкай босай,*
*Ў прыполе іх нясе.*



# ЗАГАДКІ

## САКАВІТЫЯ КАРАЛІ

На лясной палянцы
Па зялёнай траўцы
Тут і там каралі
Ззяць румянцам сталі,
Калі іх расціснуць,
Сок мядовы пырсне.

## ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

У зямлю яно лажыцца,
Узрасці каб, каласіцца,
Сонцу кланяцца, вятрам,
Каб сям'ёй вярнуцца к нам.

## НАЧНАЯ ГОСЦЯ

На луг шчэ з вечара лягла,
За ноч падняцца не змагла.
А ранкам толькі сонца ўстала —
Яе нідзе вакол не стала.

*(Працяг са стар. 5)*

## КАЗКА ПРА ВЯСЁЛАГА ЧАЛАВЕКА

Халодная чыстая вада. Блакітны домік адбіваўся ў ёй.

— Спачатку вады ў тваім калодзежы не было, бо трэба трохі часу, каб вада запоўніла выкапаную яму. А за ноч гэта і адбылося, — сказала Разумная жонка.

— Людзі! — закрычаў Вясёлы чалавек. — Я падарыў вам ваду! Цэлы калодзеж!

Праз некалькі дзён Вясёлы чалавек і яго Разумная жонка паехалі на сваю халодную радзіму. Больш аб іх ніхто не чуў. Забыліся і жарты Вясёлага чалавека. Але ўсе п'юць ваду са сцюдзёнага калодзежа і ўспамінаюць:

— Гэты калодзеж выкапаў Вясёлы чалавек. У яго была Разумная жонка.

Прайшло многа-многа гадоў.

Мора ляніва перабірае каменні...



## Адгадайка

Паглядзі на гэтае дзіўнае страшыдла і скажы, якія звяры хаваюцца ў ім.

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.